# КРЫВІНКА

ЛІСТАПАД

№18 (262)

2020 год

ІНФАРМАЦЫЙНА-КУЛЬТУРНАЯ ГАЗЕТА БЕШАНКОВІЦКАГА РАЁНА




МЕРКАВАННЕ РЭДАКТАРА

## «ТЭРРА НОСТРА» — «НАША ЗЯМЛЯ»

**Менавіта так перакладаецца на беларускую мову назва фермерскай гаспадаркі ў Бешанковіцкім раёне. Сёлета тут атрымалі 55 цэнтнераў з гектара зерневых культур, пры сярэднераёным паказчыку 32,6. Здаецца, гэтым усё сказана, але ж...**

Цытуем СБ: "Фермерское хозяйство "Терра Ностра"в Бешенковичском районе — единственное крупное фермерское хозяйство. Остальные небольшие, поэтому весомого вклада в производство продукции растениеводства и животноводства они не вносят. Будущее отрасли, по твердому убеждению Сергея Окуневича, за крупными структурами с замкнутым циклом производства, которым не только проще грамотно выстроить производственный процесс, но и наладить сбыт продукции."

Магу аргументавана запярэчыць, чаму спадар Акуневіч ( першы намеснік старшыні Бешанковіцкага РВК -- начальнік упраўлення па сельскай гаспадарцы і харчаванню) выступае за калгасы: імі раённым начальнікам шмат працей кіраваць, тады як любое прыватнае прадпрыемства самакіруемае. Зразумела, што Акуневіч не можа выступаць за тую форму гаспадаркі, дзе яму самому няма месца працы. Бо роля Акуневіча ў сістэме кіравання зводзіцца да "давай-давай" і выбівання з гаспадарак планавых паказнікаў. За што ён сам атрымоўвае салідны аклад.

Дзмітрый Саладкоў, галоўны агранам гаспадаркі, таксама не згодны з Акуневічам. Ён кажа што ў фермерскай гаспадарцы "голова работает 24 часа в сутки и все заинтересованы, как качественнее посеять, больше вырастить и подороже продать. Но самое главное отличие — отсутствие доведенного сверху плана. В сентябре наблюдал ситуацию в одном из хозяйств Витебщины: в середине мая в нем сеяли ячмень, хоть и понимали, что ничего хорошего не выйдет. Почему? Потому что план завис — не выполнить нельзя. А потом удивляемся, что затраты превышают доходы. Фермерское хозяйство более гибкое. Например, из-за дождей не успели посеять 500 гектаров озимого рапса — оставили под яровой сев, чтобы не хоронить деньги в земле. Попробуем выращивать сою, нут или горох — те культуры, возделывать которые другим хозяйствам не под силу, но которые востребованы на рынке."

Але ж галоўнае адрозненне фермерскай гаспадаркі ад калгасаў Дзмітрый Саладкоў бачыць у тым, што толькі ў фермерскай гаспадарцы можна строга захаваць тэхналогію і «накарміць» зямлю мінеральнымі ўгнаеннямі. Сёлета тут унеслі ў сярэднім 280 кг NPK на гектар, у той час як у Віцебскай вобласці ўносіцца толькі 94. А ёсць гаспадаркі, дзе гэты паказчык імкнецца да нуля!

Дзмітрый Саладкоў лічыць, што ў вобласці, калі «захоўваць агратэхніку, можна атрымаць 50 цэнтнераў зерневых. А мы прыкладзём крыху больш сілаў, і ў наступным годзе будзе ўсе 75.»

СБ піша, што «коллектив „Терра Ностры" небольшой: четыре специалиста и 18 механизаторов. Зарплата? ...А в фермерском хозяйстве даже в нынешние неденежные месяцы она держится на уровне 2 тысяч. На жатве отдельные комбайнеры получили около 6 тысяч рублей.»

У пастскрыптуме артыкула напісана, што «точка зрения Дмитрия Солодкова интересна, но не бесспорна. Хорошо, когда есть над чем поразмыслить, поспорить, ибо именно в споре, как известно, рождается истина. К ее поиску мы и приглашаем всех тех, кто переживает и радеет за развитие белорусского АПК, болеет за аграрное будущее Витебской области.»

На мой погляд, прадмета спрэчак не існуе. «Тэрра ностра» яшчэ раз даказала, што даўно ва ўсім свеце прызнана аксіёмай: фермер мае бясспрэчную перавагу перад любым калгасам. Шкада толькі, што ў сучаснай Беларусі на гэты конт існуе зусім процілеглая думка. Ды й не толькі на гэты конт.

**Г.Станкевіч**

## МАЎЧАННЕ

*Сто дзён вайна, сто дзён бяда,*
*гучыць трывогі арыя.*
*Капыціць родны край*
*арда бяздушная, бязтварая.*

*“Ратуйце!” – крык як цеціва*
*над безданню растулены,*
*А поблізу маўчыць царква*
*пад купалам-цыбулінай.*

*Заходзіць сонца без пары,*
*маўклівее ваколіца,*
*А ў рызах срэбных святары*
*за князя цемры моляцца.*

*Лічы малебны хоць да ста,*
*замоўлена – замолена.*
*Чаму ж прачысты сцяг Хрыста*
*таптаць ардзе дазволена?*

*“Магутны Божа!..” – тут і там*
*чутна хвала вячыстая.*
*Чаму ж за дзверы Божы храм*
*малітву тую выставіў?*

*Маўчання цягнучы гужы,*
*дарэмна Збаўцу кланяцца.*
*Ён не маўчаў і на крыжы.*
*І суд Ягоны – станецца!*

**Міхась Скобла**



COVID-19

## У РАЁНЕ ЎВЕДЗЕНЫ МАСАЧНЫ РЭЖЫМ

**Працытуем "Зару" з перакладам на родную мову:**
**Адпаведнае рашэнне прынята 13-га лістапада на раённым штабе па прадухіленні заводу, распаўсюджвання выпадкаў і абароне насельніцтва ад інфекцыі, выкліканай COVID-19.**

Уведзены масачны рэжым у раёне прадугледжвае абавязковае нашэнне маскі - на аб'ектах (нерухомых і рухомых) і ў арганізацыях усіх форм уласнасці (крамы, гандлёвыя цэнтры, - аб'екты грамадскага харчавання (за выключэннем часу непасрэднага прыёму ежы), - аптэкі, установы аховы здароўя, сацыяльнага абслугоўвання насельніцтва, - спартыўныя аб'екты, адміністрацыйныя будынкі, аддзяленні банкаў, сувязі, пошты, - аб'екты бытавога абслугоўвання, установы культуры, - грамадскі транспарт, у тым ліку маршрутныя таксі, аўтамабілі таксі і іншыя аб'екты, дзе цяжка альбо немагчыма забяспечыць сацыяльнае дыстанцыяванне). Гэтая мера неабходная для забеспячэння бяспекі жыхароў. Кантроль за выкананнем масачных рэжыму ускладзены на кіраўнікоў суб'ектаў гаспадарання ўсіх формаў уласнасці. Масачны рэжым будзе дзейнічаць да стабілізацыі эпідэміялагічнай сітуацыі ў раёне.

**А.Тутэйшы**

ПРАТЭСТЫ

## ШТРАФ ЗА АФІЦЫЙНЫ СЦЯГ

**Жыхар Бешанковічаў атрымаў штраф у 2 базавыя велічыні (54 рубля) - за ўдзел у несанкцыянаваным мітынгу на галоўнай плошчы гарадскога пасёлка. Мужчына распавядае, што ён стаяў там з афіцыйным сімвалам Віцебскай вобласці - сцягам з «Пагоняй».**

- Падзеі адбываліся яшчэ ў верасні. Бешанковічы хоць і маленькі населены пункт (у нас у раёне пражывае 6 тысяч чалавек), але і ў нас, як і па ўсёй краіне, людзі выходзілі на цэнтральную плошчу, каб мірна выказаць сваю нязгоду з тым, што адбываецца пасля выбараў, - распавядае мужчына (ён пажадаў застацца ананімным, але яго дадзеныя ёсць у рэдакцыі). - У той выхадны дзень на плошчы мы стаялі са сцягамі. У мяне быў сцяг Віцебскай вобласці, у іншых хлопцаў - бел-чырвона-белыя.

Тое, што адбываецца на плошчы здымала на відэа мясцовая міліцыя. Затым тых, хто там знаходзіўся, абвінавацілі па артыкуле 23.34 КаАП ва ўдзеле ў «несанкцыянаваным мерапрыемстве». Адміністрацыйную справу разглядала суддзя суда Бешанковіцкага раёна Наталля Рэут.

- Мне далі штраф у 2 базавыя велічыні, а людзям, хто стаяў з бел-чырвона-белымі сцягамі, - па 5 базавых (135 рублёў). Я спрабаваў растлумачыць суддзі, што сцяг Віцебскай вобласці - афіцыйна зарэгістраваная сімволіка. Але гэта ні на што не паўплывала. Цікава, што ў міліцэйскім пратаколе было ўказана, што я стаяў менавіта са сцягам Віцебскай вобласці, а ў пастанове суда ўжо не канкрэтызавалася, які гэта быў сцяг. Было напісана проста: «трымаў сцяг".

Жыхар Бешанковічаў не абскарджваў штраф: - Палічыў, што гэта марнаванне часу. Сцяг Віцебскай вобласці зацверджаны ўказам прэзідэнта 11 гадоў таму. Ўяўляе сабой палотнішча зялёнага колеру, у цэнтры якога размешчаны гістарычны герб рэгіёну - «Пагоня».

**TUT.BY**

СЕЛЬСКАЯ ГАСПАДАРКА

## ЗВОЛЬНІЛІ МАЛАДОГА КІРАЎНІКА

**30-гадовы Раман Кульгавы, які кіраваў гаспадаркай “Дразды-Агра”каля трох гадоў, адпраўлены ў адстаўку. Замест яго прызначаны Вячаслаў Храмцоў, які быў нядаўна зацверджаны Мікалаем Шарстнёвым на паседжанні аблвыканкама. Новы кіраўнік разам з іншымі прызначэнцамі атрымаў ад М.Шарстнёва наказ прыдаць працы рытмічнасць.**

Пішуць «Віцебскія Весці»: «Придать ритмичность работе следует согласованному на должности руководителю сельхозпредприятия „Дрозды-Агро“ (Бешенковичский район) Вячеславу Храмцову ...»

Ранейшы кіраўнік Раман Кульгавы, які адпрацаваў у гаспадарцы лічаныя гады, яшчэ з'яўляецца студэнтам 5-га курса мехфака Беларускай Дзяржаўнай сельгасакадэміі ў Горках. Мусіць, за гады ягонага кіравання паказнікі гаспадаркі не вельмі змяніліся ў лепшы бок. Асабліва ўраджайнасць зерневых культур, якая сёлета была далёкай ад сярэдняраённай 32,6 цэнтнераў з гектара, і склала нешта каля 22 цэнтнераў з гектара.

22-га ліпеня падчас наведвання


*(працяг на стар. 2)*

СЕЛЬСКАЯ ГАСПАДАРКА

*(пачатак на стар. №1)* нашага раёна М. Шарстнёў заявіў: " Думаю, что в нынешнюю уборочную страду Бешенковичский район соберёт лучший урожай за последние годы, — отметил председатель облисполкома. — Если август позволит — вся Витебская область будет с хлебом. Но для этого надо приложить максимум усилий, чтобы всё, что есть на полях, в конечном итоге было в закромах."

Калі напрыканцы жніўня Бешанковіцкі раён наведаў лукашэнкаўскі інспектар Анатоль Ліневіч, то ён наведаў «ДраздыАгра».

Працытуем жнівеньскую «Зару»: «По данным на вчерашний день, каравай района составляет 36821 т (86,7%), средняя урожайность зерновых в этом году — 32,2 ц/га. В центре внимания помощника Президента оказалось КСПУП„ДроздыАгро", вклад его тружеников в общий намолот — почти 1500 т. Надо отдать должное, урожайность здесь выше прошлогодней — 21,9 ц/га.

Во время посещения мехмастерской А. К. Линевич вместе с председателем райисполкома Г. В. Унукович и директором сельхозпредприятия Р. В. Кульгавым обсудил результаты работы аграриев, современные подходы к ведению сельского хозяйства, а также проблемы и перспективы развития отрасли в целом.

На повестке дня у КСПУП „ДроздыАгро" сейчас сев, приступить к которому пока не удалось из-за трудностей, связанных с ремонтом энергонасыщенной техники. Однако Р. В. Кульгавый уверил, что данный вопрос уже решён, и на следующей неделе труженики начинают сеять сурепицу (планируется, что культура разместится на площади 300 га)."

**Г.Станкевіч**

# НЕ ХОЧУЦЬ ПРАЦАВАЦЬ У КАЛГАСЕ, НАВАТ З ДОБРАЙ ЗАРПЛАТАЙ

**Ужо каля 10 гадоў гаспадарка УП «Вядзерава» Бешанковіцкага раёна- ў перадавіках. Як удаецца ўтрымліваць лідзіруючыя пазіцыі такі доўгі тэрмін распавёў дырэктар Васіль Бярозка.**

Даведка "ВВ" Васіль Бярозка нарадзіўся на Брэстчыне, Лунінецкі раён. Скончыў Віцебскую ветакадэмію. Працаваў на Гарадзеншчыне, у Магілёве. Два гады адпрацаваў у Віцебскім райвыканкаме, быў намеснікам начальніка ўпраўлення па жывёлагадоўлі. У 2009 годзе ўзначаліў «Вядзерава».

***- Які быў ваш алгарытм дзеянняў у «Вядзераве», бо калі вы ўзначалілі гаспадарку, становішча там было сумным?***

- 11 гадоў таму, пры першай сустрэчы з калектывам, работнікі мне сказалі: «Забяспеч палівам, запчасткамі, харчаваннем, і мы, Васіль Сцяпанавіч, за 10 гадзін зробім больш, чым хто-то за дзве змены». Так і атрымалася.

***- Сёння «Вядзерава» - гэта ...?***

-Сярэднетаварная гаспадарка, якое займаецца развядзеннем буйной рагатай жывёлы, вывядзеннем зернебабовых, кармавых і алейных культур, бульбы, вытворчасцю малака. Сельгасугоддзяў -4700 га, ворыва - без малога 3 тысячы га, сярэдняе пагалоўе - 2300 галоў, дойны статак - 745 галоў. Ёсць дзве малочнатаварныя фермы, два мехдворы.

***- Давайце больш падрабязна спынімся на выніках працы за гэты год.***

- За восем месяцаў бягучага года вытворчасць малака склала 2819,5 тоны, гэта 117,6% да аналагічнага перыяду 2019-га. Надой на адну карову - 4056,9 кг (113,3% да 2019-му). Было рэалізавана 2575,9 тон (122,2%). Лічбы кажуць самі за сябе. Важкі даход гаспадарцы прынёс продаж малака праз біржу. Нам удалося дадаткова зарабіць больш за 360 тысяч рублёў, на якія адрэстаўравалі і запусцілі цэх раздоя цялушак на 93 галавы, абнавілі ўсё начынне фермы - купілі малакаправод, халадзільнік. Валавы збор збожжа склаў 4 648 тон, атрымалі на 600 тон больш, чым у папярэднім годзе, а гэта трохмесячная патрэба гаспадаркі.

***- А ці ёсць праблемныя месцы?***

- Эканамічна «скрыпам» трошкі. Так, па прыбаўленні спрацавалі не вельмі. Але на гэта ёсць аб'ектыўныя прычыны: два гады таму нарыхтавалі ў недастатковай колькасці травяных кармоў, затым - канцэнтратаў. У 2020-м поўнасцю забяспечаны і тым, і іншым. Так, зялёнай масы на корм нарыхтавана 7566 тон - гэта 132,1% да 2019 года.

Цягнуць уніз гаспадарку і дэбіторы, якіх сёння нямала. Пастаўляеш прадукцыю, прычым па нізкіх коштах, а вось рэакцыю ў адказ чакаеш вельмі доўга. Акрамя гэтага, мы пяць гадоў плацілі па даўгах далучанага РКУПСХП «Астроўна». А нам жа таксама патрэбна зарплата.

***- Немалаважнае значэнне мае тэхнічнае абсталяванне прадпрыемства. Які сельскагаспадарчы парк «Вядзерава»?***

- Гаспадарка забяспечана дастатковай колькасцю тэхнікі. Калі штосьці выйшла са строю, з рамонтам ня зацягваем. У гэтым годзе купілі на суму каля 2 млн. рублёў праз сістэму «Прамагралізінг» і крэдыты банка набылі кормаўборачны комплекс, прэс-абмотчык, каляску, якая самазагружаецца, для транспарціроўкі рулонаў з маніпулятарам, прычапную тэхніку, раскідвальнік мінеральных угнаенняў і іншае. Патрэбныя яшчэ некалькі адзінак камбайнаў, трактароў, «Амкадор».

***- Кадры вырашаюць многае. Як вы ажыццяўляеце іх падбор?***

- Зараз працуюць тыя, хто прыйшоў на час, так сказаў кіраўнік вобласці на адной з нарад. І ён мае рацыю. Хтосьці прыходзіць зрабіць кар'еру, а хто-то адседзецца. А вось працы на вынік - не. Сёння ў гаспадаркі адкрыта вакансія заатэхніка з заробкам у дзве тысячы. Знаёміцца з абавязкамі і больш не прыходзяць, асабліва маладыя спецыялісты. Але ж проста так грошы не плацяцца - толькі за працу і за вынік.

***- На ваш погляд, чаму моладзь не хоча ісці працаваць нават у паспяховую гаспадарку?***

- Некаторыя, да прыкладу, выбіраюць не тую прафесію. За 11 гадоў у мяне было тры намеснікі. Сілком цягнуў іх на ферму - прапахнуць баяліся. Ну хіба гэта работнікі сельгаспрадпрыемства? Яшчэ людзі бягуць з вёсак у горад. Не хочуць працаваць у калгасе, нават з добрай заработнай платай.

***- Хто з спецыялістаў у большай ступені мае дачыненне да поспеху гаспадаркі?***

- Як вядома, адзін у полі не воін. У нас сфарміравана свая каманда. Спісачнай склад - 100 чалавек. Я ўдзячны ўсяму нашаму калектыву, дзе працуе нямала сапраўды адданых сваёй справе людзей, якія, не лічачыся з часам, сумленна і добрасумленна працуюць і ўносяць дастойны ўклад у развіццё гаспадаркі. Паказчык, які сведчыць пра многае: у параўнанні з мінулым годам прадукцыйнасць працы павялічылася на 44,2%. Сярод перадавікоў - камбайнеры бацька і сын Іван і Яўген Леаненка, кіроўца Уладзімір Семянько і многія іншыя.

Хто сумленна працуе, атрымлівае годнае ўзнагароджанне. У параўнанні з мінулым годам сярэднямесячная заработная плата павялічылася - на 23,6% (па выніках васьмі месяцаў) і складае больш за 800 рублёў.

***- Падзяліцеся сакрэтам поспеху.***

- Я люблю сваю працу. - Якім вы бачыце развіццё галіны?

- У сувязі з штогадовым памяншэннем занятых у сельскай гаспадарцы работнікаў наспела вострая неабходнасць у набыцці і выкарыстанні высокапрадукцыйнай тэхнікі і абсталявання. Таксама сёння трэба адыходзіць ад практыкі падтрымкі стратных прадпрыемстваў да садзейнічання развіццю эфектыўна працуючых прадпрыемстваў.

**Віцебскія весці**

КУЛЬТУРА

# ШТО АДБЫВАЕЦЦА НА АНТ

**У жніўні з АНТ звольніліся 50 чалавек. Яшчэ прынамсі 30 — у верасні і кастрычніку. Пераважна гэта журналісты, рэдактары і відэаінжынэры.**

«Спачатку апэратары казалі: я ж не гавару ў кадры, маё сумленьне амаль чыстае. Але потым стала нагэтулькі невыносна, што нават яны не маглі моўчкі працаваць», — расказвае Свабодзе адна са звольненых супрацоўніц, якая прасіла не называць яе імя.

У першыя дні пасьля выбараў каля 20 чалавек пачалі страйк на АНТ. Усе гэтыя людзі сталі ворагамі кіраўніцтва, іх не пускалі ў рэдакцыю, каб нават забраць працоўную кніжку і ўласныя рэчы. Некаторым іх перадавалі праз вакно.

«Людзі звольніліся з сур'ёзных пасадаў. Хто працаваў у дырэкцыі, хто быў шэф-рэдактарам — гэта рэдкія прафэсіяналы. На іхнае месца абы-каго не пасадзіш», — кажа былая супрацоўніца.

Таксама стаў меншым «прэзыдэнцкі пул». Бо сышоў ня толькі Дзьмітры Семчанка, былы кіраўнік «пулу», які публічна звольніўся пасьля выбараў. Былыя працаўнікі АНТ кажуць, што з 15 чалавек, якія былі ў касьцяку «пулу», сышлі прынамсі 6-7 журналістаў, апэратараў і відэамантажыстаў.

«Цяпер кіраўнік дырэкцыі і ягоны намесьнік езьдзяць як журналісты з прэзыдэнцкім „пулам"», — кажа суразмоўца.

**Закрываюць праграмы, скарачаюць рэкламу, журналістам адмаўляюць у інтэрвію**

На АНТ скарачаюць праграмы. У пэўных перадачах, як «Наше утро», скарацілі рубрыкі. Там эфір сталі забіваць аднастайнымі інтэрвію. У вечаровых навінах цяпер адзін вядоўца, хоць заўсёды іх было два.

«Бо няма ні грошай, ні людзей, — кажа былая супрацоўніца. — Многія рэклямадаўцы адмовіліся супрацоўнічаць з каналам».

Праблемы ўзьніклі і ў навіновых журналістаў. Яны ня могуць дамовіцца на сюжэты са звычайнымі людзьмі, бо дзяржаўным тэлеканалам проста адмаўляюць.

«Хто цяпер пагодзіцца гаварыць зь дзяржаўнымі СМІ? На экране цяпер толькі чыноўнікі», — кажа суразмоўца.

На вызваленыя месцы набіраюць журналістаў з СТВ і БТ, якія не сутыкнуліся з такім масавым сыходам супрацоўнікаў. Або бяруць студэнтаў ці ўвогуле новых людзей не з журналістыкі.

«За кошт таго, што мы пасыходзілі, многія начальнікі селі рабіць нашую працу. Намесьнік дырэктара дырэкцыі сядзіць як шэф-рэдактар. Тая ж Рамбальская стала вядзе некалькі перадачаў, а не адну, як раней. Бо вядоўцаў шмат сышло», — кажа былая супрацоўніца.

**Тых, хто сыходзіць, Маркаў палохае крымінальнымі справамі**

Але большасьць супрацоўнікаў дзяржаўнага тэлеканалу, кажуць суразмоўцы Свабоды, усё ж засталіся працаваць далей. Іх там трымаюць тры прычыны. Па-першае, крэдыты, якія АНТ выдавала на будаўніцтва кватэраў. Па-другое, сталы заробак (а зараз яго павялічылі). Па-трэцяе, страх перасьледу. Былыя журналісты, рэдактары і тэхнічныя спэцыялісты кажуць, што генэральны дырэктар Марат Маркаў асабіста запалохваў тых, хто звальняўся.

«Ён кажа, што чалавека ня возьмуць ні на якую іншую працу, пагражае „кампраматам", якога дастаткова на крымінальную справу. Аднаму хлопцу Маркаў увогуле сказаў, што яго пасьля звальненьня проста ня знойдуць», — кажа суразмоўца.

А таму супрацоўнікі АНТ баяцца публічна апавядаць пра свой сыход. Асабліва пасьля таго, як асудзілі на арышт былога кіраўніка прэзыдэнцкага пулу Дзьмітрыя Семчанку.

«Нават непублічна мы ня хочам казаць, чым цяпер займаемся. У некаторых нават параноя», — кажа былая супрацоўніца АНТ.

Пры гэтым журналісты сьцьвярджаюць, што і да выбараў, і цяпер большасьць супрацоўнікаў выступалі супраць Лукашэнкі і ягонай палітыкі. Але цяпер яны гэта не абмяркоўваюць нават паміж сабой.

«Цяпер там магільнае маўчаньне. Ці мала што пачуюць і данясуць. Прыкладна так гэта працуе», — кажа былая супрацоўніца.

**Ці былі на АНТ расейцы?**

Пра «расейскі дэсант» на БТ было вядома. Каманда з Russia Today працавала ў Менску і рыхтавала матэрыялы для каналу «Беларусь-1».

Аказваецца, супрацоўнічалі расейцы і з АНТ. На тэлеканале праводзілі сход з «добранадзейнымі» супрацоўнікамі, дзе прадставілі расейцаў — 6-7 чалавек.

«Але яны на канале не зьяўляліся, проста прысылалі гатовыя сюжэты. Шчыра кажучы, „чарнушныя"», — сказаў іншы былы супрацоўнік АНТ.

«Добранадзейныя супрацоўнікі» — гэта тыя, хто не адмаўляецца працаваць з прапагандысцкімі матэрыяламі. То бо нават цяпер кіраўніцтва не давярае ўсім сваім падначаленым, ня ўпэўненае ў іхнай ляяльнасьці.

«Я веру, што і надалей людзі будуць сыходзіць, нягледзячы на запалохваньні і дзікі прэсінг, — кажа суразмоўца Свабоды. — У іх іншы парог трываласьці. Калі ўсё пачалося, было сорамна працаваць на АНТ журналістам. А зараз сорамна там нават мыць унітазы. Бо яны на АНТ».

**Радыё Свабода**

АЗБУКА ПАЛІТАЛОГІІ

# ШТО СУЧАСНЫМ ЭКАНОМІКАМ ДОБРА, ДЛЯ БЕЛАРУСКАЙ МАДЭЛІ — СМЕРЦЬ

**Парламент, выбары, праваахоўныя органы — усе гэтыя абавязковыя інстытуты сучаснай дзяржаўнасці ў нас быццам бы існуюць, вось толькі скарыстацца іх паслугамі ў адпаведнасці з Канстытуцыяй чамусьці не атрымліваецца.**




Тыя, каму належыць ахоўваць парадак, бяруць прыклад са злачынцаў і хаваюць свае твары пад маскамі. Чальцы камісіі па падліку галасоў не вывешваюць выніковых пратаколаў і таемна пакідаюць участкі для галасавання праз запасны выхад. Сам быў сведкам падобнага. Дэпутаты, якія засядаюць у Палаце прадстаўнікоў, ні маіх інтарэсаў, ні інтарэсаў маіх шматлікіх знаёмых не прадстаўляюць. Але ўсе пры справе — адпаведна, і пры зарплаце.

Беларуская мадэль ва ўмовах палітычнай канкурэнцыі не ўзнаўляецца. На 70 тысяч чальцоў участковых выбарчых камісій туды ўвайшлі 6 чалавек ад апазіцыйных палітычных партый — і не праз нейкую памылку, недагляд або загадзя спланаваную правакацыю. Не, усё значна прасцей. Як і кожная сацыяльная структура, якая аднойчы сфарміравалася, беларуская мадэль банальна імкнецца выжыць. *Яна грае як умее. Патрабаваць ад яе штосьці іншае — бессэнсоўна…*

**Адступаць няма куды, а наступаць ёсць куды**

Ад палітыкі час перайсці да эканомікі, і пачну я з наступнага жыццесцвярджальнага акорду: «Ад сістэмнага руху наперад мы не адступім. Не за гарамі новая пяцігодка, якая мусіць стаць для Беларусі прарыўной. У бліжэйшыя гады краіна павінна ўвайсці ў шосты тэхналагічны уклад, што азначае далейшае эканамічнае развіццё дзяржавы: уласная энергетыка, экалагічная і канкурэнтаздольная вытвор-часць, высокая, на ўзроўні сусветных стандартаў, якасць беларускай прадукцыі».

Пра тое, каб «дагнаць і перагнаць» развітыя краіны, марыў яшчэ правадыр сусветнага пралетарыяту, чые помнікі ўпрыгожваюць галоўныя плошчы беларускіх гарадоў. Сваёй марай ён падзяліўся ў артыкуле з сімвалічнай назвай «Катастрофа, якая пагражае, і як з ёй змагацца».

Прызнаюся, я не знайшоў часу, каб асвяжыць у памяці ленінскія прапановы па барацьбе з катастрофай, якая пагражала. Час — гэта грошы. Навошта яго марнаваць на мінулае, калі сучаснасць такая багатая на арыгінальныя ідэі.

Ядро шостага тэхналагічнага ўкладу, калі хто забыўся, складаюць разнастайныя «нана»: нанаэлектроніка, нанахімія, нанафатоніка, нанаматэрыялы, нана-біятэхналогіі і г.д. Наш шлях у свет «нана» залежыць, перш за ўсё, «ад эфектыўнасці працы кіраўніцтва сілавых структур», на якія ўскладзена задача па «забеспячэнні стабільнасці і дабрабыту нашых людзей».

Дабрабыт — шматзначны тэрмін, асноўным значэннем якога з'яўляецца росквіт, забяспечанасць, спакойнае і жыццё ў дастатку. Для таго, каб усё пералічанае самым бліжэйшым часам увасобілася ў жыццё, кіраўнікі сілавых структур абавязаныя няўхільна выконваць наступнае патрабаванне АП: «З сённяшняга дня, асабліва ў кватэрах грамадзян, куды яны ("майданутыя" і "пратэстуны". — С. Н.) хаваюцца, мы ў палон нікога не бярэм. Калі хтосьці дакранецца да вайскоўца, ён павінен сысці адтуль як мінімум без рук. Я кажу гэта публічна, каб усе разумелі нашу далейшую рашучасць. Далей усё. Нам адступаць няма куды, і мы адступаць не збіраемся. Хто гатовы — будзем дзейнічаць».

Адступаць няма куды, а наступаць ёсць куды. Трымці, шосты тэхналагічны ўклад! Ты асуджаны! Ад сістэмнага руху наперад мы не адступім! Нездарма ж кажуць, што ў нанатэхналогіях мае поспех той, хто ўмее працаваць галавой. Што тычыцца рук, то яны ў гэтай справе — не памочнікі.

**Тройчы мае рацыю прэм'ер-міністр**

Сваё ўменне працаваць галавой днямі прадэманстраваў прэм'ер-міністр Беларусі, які адгукнуўся на адкрыты ліст беларускіх і расійскіх эканамістаў з прапановамі па рэфармаванні беларускай мадэлі.

«Мы чуем вельмі шмат парадаў ад эканамістаў, незалежных эканамістаў, як будаваць эканоміку Беларусі. Мы радыя ўсім парадам, толькі галоўнае, каб яны былі канкрэтныя і прыземленыя, а агульныя рэцэпты з падручнікаў для першага-другога курсу эканамічных ВНУ, прабачце, не трэба», — пракаментаваў кіраўнік урада.

Сярод аўтараў ліста — навуковец з сусветным імем, экс-галоўны эканаміст Еўрапейскага банка рэканструкцыі і развіцця (2015–2019), а ў цяперашні час прафесар у Парыжскім універсітэце сацыяльных навук Science Po Сяргей Гурыеў. Што ж ён і яго калегі параілі беларускаму ўраду?

Спіс з адзінаццаці прапаноў не з'яўляецца таямніцай. Для разумення большасці з іх не патрэбныя ведаў, якія выходзяць за межы «падручнікаў для першага-другога курсу эканамічных ВНУ». Што новага і арыгінальнага, напрыклад, утрымліваюць пункты 2 («незалежнасць судовай сістэмы ад іншых галін улады») і 4 («стварэнне роўных і спрыяльных умоў гаспадарання для ўсіх прадпрыемстваў незалежна ад формы ўласнасці, памеру або галіны»).

А якая практычная карысць беларускай мадэлі можа быць ад пункта 5 («павышэнне эфектыўнасці кіравання дзяржпрадпрыемствамі»), які змяшчае рэкамендацыю падзяліць функцыі дзяржавы як уласніка і рэгулятара? Хіба хто-небудзь з чальцоў урада пярэчыць супраць такога падзелу? Падніміце архівы. Ужо гадоў 10–15 ніхто не пярэчыць.

Тройчы мае рацыю прэм'ер-міністр: ні адну з парадаў немагчыма аднесці да канкрэтных і прыземленых. Праблема, аднак, не ў нізкай кампетэнтнасці дарадцаў, не ў іх адарванасці ад жыцця, а ў своеасаблівасці беларускай мадэлі. У сваім развіцці за чвэрць стагоддзя яна так і не здолела адпавядаць патрабаванням, апісаным у падручніках для першага-другога курсу эканамічных ВНУ. І прычыну гэтага не варта шукаць у недастатковым узроўні адукацыі яе аўтараў.

Адважуся сцвярджаць, што эфектыўнасці беларускай мадэлі так званыя «развітыя краіны» павінны зайздросціць, бо эфектыўнасць ёсць паказчык здольнасці дасягаць акрэсленых мэтаў. Галоўнай жа мэтай аўтараў беларускай мадэлі з'яўляецца... утрыманне ўлады. Будзе ўлада — будзе і дабрабыт. Зразумела, не для ўсіх, але чые гэта праблемы?

Што да разумнікаў, дык не забароніш жа ім рыхтаваць прапановы па рэфармаванні беларускай мадэлі. Неабходна толькі памятаць: тое, што сучасным эканомікам добра, для беларускай мадэлі — смерць.

**Сяргей Нікалюк**
**"Новы Час"**

ЗВАРОТ ДА МІНІСТЭРСТВА

# «СЕГОДНЯ ИДЕОЛОГИЯ ГОСУДАРСТВА ПРЕСТУПИЛА ПРИНЦИПЫ ОБЩЕЧЕЛОВЕЧЕСКИХ ЦЕННОСТЕЙ

**«Разве можно плодотворно и творчески в страхе учить детей? Нет!» Педагоги Беларуси написали эмоциональное обращение в Министерство образования, в котором сравнили то, что происходит сейчас в стране с фашизмом.**

— Последние месяцы политика государства — это насилие, вранье, беззаконие. Разве может учитель поддерживать такую политику? Сегодня идеология государства преступила принципы обще-человеческих ценностей, она близка к фашизму.

«Фашисты стремятся к установлению полного и неограниченного контроля государства над всеми сферами общественной жизни. Склонность фашистами к террористическим методам управления обществом проявляется в нагнетании атмосферы страха и бессилия в обществе, проведении массовых репрессий, жестоком подавлении любого инакомыслия», — приводят учителя определение из учебно-методического пособия.

Педагоги заявляют, что на них «оказывается моральное давление со стороны администрации учреждений образования за выражение несогласия с идеологией государства» вплоть до увольнения.

— Сегодня в нашей стране происходят события, которые нельзя не замечать, не слышать, оставаться равнодушными к ним. На улицах наших городов совершается насилие над мирными гражданами. Насилие со стороны государства.

Мы слышим с экранов государственных теле-каналов о преступных приказах против народа РБ. Мы видим, как неизвестные люди в балаклавах без опознавательных знаков творят беззаконие и остаются безнаказанными. Они хватают мужчин, женщин, детей. Они бьют, калечат, убивают угрожают, оскорбляют мирных граждан всего лишь за реализацию права, гарантированного им Конституцией.

Сегодня мы не можем молчать. Многие учителя боятся высказать свое мнение, боятся потерять работу, боятся за своих учеников, боятся за свою жизнь и жизнь близких людей. Разве можно плодотворно и творчески работать в страхе? Нет!" — уверены педагоги.

Они требуют защиты своих прав, прекращения давления, восстановления на рабочих местах педагогов, уволенных по политическим причинам, и освобождения людей из заключения за выражение гражданской позиции на мирных акциях протеста.

Также учителя присоединяются к народным требованиям остановить насилие на улицах, освободить всех политзаключенных и признать выборы 9 августа недействительными.

В настоящее время обращение уже подписали более 200 человек.

**"Салідарнасць"**
**gazetaby.com**

РАБІ ДАБРО!

# «ДАБРО ЦЯПЕР — ГЭТА ПРАТЭСТ»

**Падзеі вакол нас даўно ўжо набылі біблейны характар. Нават нерэлігійны чалавек, угледзеўшыся, лёгка заўважыць: тут сапраўды ідзе не палітычная барацьба, а змаганьне, даруйце за патас, Дабра са Злом. Нейкім незаўважаным, але пераканаўчым чынам канфлікт з палітычнага імкліва пераўтварыўся ў маральны.**

Калі прыняць за маральную норму патрабаваньні рэжыму, цяпер у нас зьяўляецца злачынствам: памятаць сваіх мёртвых, ушаноўваць іх памяць кветкамі, даваць прытулак тым, хто ў небясьпецы, падвозіць ваду тым, хто яе ня мае, казаць праўду, абараняць затрыманых ці зволненых калег і сваякоў, заклікаць да спыненьня гвалту, апэляваць у сваіх патрабаваньнях да народу.

Наадварот, правільным і ўхвальным зьяўляецца: ілгаць, ілжэсьведчыць, кідаць сваіх у бядзе, біць нагамі памінальныя лямпадкі, выдаваць тых, хто схаваўся ад небясьпекі, зачыняць дзьверы перад тымі, хто баіцца. Калі царква заклікае не апаганьваць памяць мёртвых — ёй загадваюць заткнуцца. Калі, наадварот, царква ўхваляе гвалт над людзьмі — ёй даюць месцы ля мікрафонаў. Калі доктар выказвае спачуваньне і міласэрнасьць да зьбітага — доктара звальняюць з працы. Калі доктар у ІВС штурхае нагой спакутаванага — ён застаецца працаваць.

Каб зрабіць кар'еру сёньня, трэба быць: жорсткім, хлусьлівым, амаральным, бессардэчным. Каб гарантавана страціць працу, трэба быць праўдзівым, неабыякавым, прыязным да людзей. Ты можаш нават ня мець з сабой сьцягоў, не дэкляраваць палітычных патрабаваньняў, ты можаш проста прынесьці кветкі на месца забойства — і ты будзеш злачынцам. А можаш раскідаць кветкі нагамі — і ты будзеш паслухмяным грамадзянінам. Дый наогул, ты можаш абылгаць мёртвага — і выдаваць сябе за ікону маралі. А можаш прад'явіць людзям праўду насуперак гэтай ілжы — і справакаваць забарону на праўду для ўсіх.

Ня ведаю, ці заўважаюць гэта тыя, хто сёньня трымае на сваіх плячах былую ўладу: як лёгка і як беспаваротна яны звальваюцца ў маральную бездань. Вось ты судзьдзя, неблагая, напэўна, дзяўчына, харошая дачка харошай мамы, але ты проста вынесла прысуд на падставе ілжэсьведчаньняў, якія даў невядомы ані табе, ані іншым Іван Іванавіч Іваноў — опа, і ты ўжо на баку Зла. Здаецца, проста выконвала сваю работу (потым так і скажаш). Але дабро і зло ня ведаюць межаў паміж работай і не-работай. Немагчыма быць на працы са Злом, а дома з Дабром. Так проста не бывае. Шчэ ў палітыцы можна падтрымліваць аднаго, а працаваць на іншага, без праблем. А з дабром і злом такія жарцікі не праходзяць. Ты альбо там — альбо там.

Мне падаецца, я разумею цяперашнюю беларускую Салідарнасьць — салідарнасьць маштабную, касьмічную, салідарнасьць, якая ня мае меры і межаў. Дабро цяпер — гэта пратэст. Што б ты ні рабіў добрага — ты ўжо пратэстуеш. Прывёз вады — пратэстуеш. Аднавіў паламаную чорнымі людзьмі мэблю — пратэстуеш. Пусьціў памыцца ці адпачыць незнаёмца — пратэстуеш. Не схлусіў — пратэстуеш. Абараніў слабога — пратэстуеш.

Ну можна зрэзаць усе стужачкі, разьбіць усе лямпадкі, пасадзіць усіх з вуліцы, забараніць партрэты Рамана Бандарэнкі. Можна. Але з Дабром — што рабіць? Як ты яго забароніш? Нават калі жыцьцё пакласьці на гэта — ну ніяк.

І менавіта таму ў гэтым канфлікце перамога — прадвызначаная. Ну так, Зло, бывае, выйграе ў тактыцы. Нават найчасьцей так і бывае — тактычна Зло і больш хітрае, і больш жорсткае, і часьцяком лепей арганізуецца. Але стратэгічна ў Зла няма ніякіх шансаў. І ня проста таму, што так напісана ў Бібліі. А таму, што чалавецтва, каб выжыць і не пажэрці адзін аднаго, ад самага свайго пачатку вымушана трымацца Дабра. Голы практычны сэнс.

А беларусы людзі практычныя.

Хочацца расказаць напрыканцы адну праўдзівую гісторыю. Адна мая знаёмая настаўніца прыйшла ў панядзелак на ўрок зьбітая, зь вялізарным сіняком на твары. На нядзельным маршы яна кінулася бараніць чалавека, якога цягнулі ў бус, і яе ўдарылі ў твар амапавец. Дзеці, натуральна, успалашыліся: што з вамі? Яна шчыра расказала, як было.

А назаўтра яе выклікаў дырэктар і голасам прарока пратрубіў у яе разьбіты твар: «Мне сёньня патэлілі з аддзелу адукацыі! Туды паступіў сыгнал, што вы ўчора на ўроку сказалі дзецям праўду!»

Мы ішлі зь ёю поплеч па праспэкце Пераможцаў, зноў была нядзеля, зноў побач было шмат прыгожых людзей, сіняк яе цьвіў ужо жоўтым і чорным, і мы сьмяяліся.

**Ганна Севярынец**
**svabod1.azureedge.net**

НАШЫ СІМВАЛЫ

# БУДУТ ЛИ ЛЮДИ В БАЛАКЛАВАХ ВРЫВАТЬСЯ В ЦЕРКВИ?

**Очередной фронт гражданской войны Лукашенко открыл против национальной символики. В качестве аргумента, что он не фашист, Лукашенко заявил, что не ходит под бчб-флагом.**

«... открыто говорю, что это фашистская символика... Когда у нас были бчб-шные флаги, которые у нас, Лукашенко портретов под бчб-флагами не было, а фашистов — были».

Лукашенко заявил, что не намерен терпеть «эту фашистскую символику в Минске».

«Мы уберем эту фашистскую символику из нашего общества. Сделаем это красиво и, прежде всего, разъясняя, вбивая в голову людям, что это нельзя делать».

То, что его сторонники умеют **«вбивать в голову»**, уже увидели во всем мире на примере убийства Романа Бондаренко.

На недавнем совещании со своими чиновниками Лукашенко призвал навести порядок во дворах Минска, убрать народные мемориалы погибшим мирным гражданам и срезать и закрасить бел-чырвона-белые изображения флага.

Указание развязать идеологическую и психологическую войну против национальной символики — это и репрессии против огромной части нашего общества — верующих. Все православные священники во время особо праздничных дней выходят служить в одеждах с изображением бел-красно-белых лент. Белый цвет означает чистоту души Христа, а красный — кровь, пролитую Сыном Бога за грехи людей.

И что? Теперь рьяные слуги режима начнут охоту на священников? Будут арестовывать их и срезать с их одежды символы Христа?

Неужели Лукашенко думает, что верующие будут его за это благодарить?

Аргументы, что это фашистская символика, не выдерживают никакой критики. Именно под бело-красными знаменами в начале XV века воины ВКЛ громили крестоносцев под Грюнвальдом. Сходите в национальный музей, где пушка на крыльце стоит, да и детей своих туда возьмите и внучек. Там есть об этом картины.

Если следовать этой «фашистской» логике, то следует запретить у нас в Беларуси все флаги России. Ведь под ними против СССР сражалась на стороне Гитлера армия Власова.

Может, есть смысл подумать и остановить антихристову войну? Посмотрите на изображения священников с символикой Христа, поговорите со своими священниками Федором Повным и новым митрополитом. Может, они вам смогут разъяснить антихристианский смысл операции, которую вы затеяли.

А то ведь с учетом рвения ваших приближенных, которые стали убивать людей в их же дворах, следует ожидать нападений и на священиков, которые в праздничном одеянии выйдут служить верующим и Богу.

Представляю, как некие особи в черном и балаклавах крадутся к священнику во время богослужения. Хватают его, укладывают на пол и начинают срезать бчб-ленточки с его одежды. А если священник сопротивляется, то его ударяют головой об пол, несут в бусик с тонированными стеклами и отвозят в милицию. А через сутки мы узнаем, что священник умер, не приходя в сознание. А вы по телевизору сообщаете, что священник демонстративно одел фашисткую символику, был пьян и поэтому туда ему и дорога!

Скажите, что у меня буйная фантазия, которая нарисовала столь фантасмагорическую ситуацию?

Отнюдь. Этот фантасмагорический сюжет был навеян как минимум следующими фактами:

1. Главу Костела в Беларуси гражданина РБ Кондрусевича не впустили в родную страну. До этого Лукашенко публично намекнул, что священник чуть ли не преступник и мошенник. Прошло несколько месяцев. Паспорт Кондрусевича подвергли тщательной проверке. И ничегошеньки не нашли. Католикам до сих не представили ни одного факта нарушения закона Кондрусевичем. Так почему его не пускают на родину? Только потому, что начальник его родины не хочет, чтобы священник тут вещал про христианские ценности и заповеди Христа, такие как «не убей».

2. После разгрома временного мемориала, посвященного убитому Роману Бондаренко, свое несогласие и оценки высказали католический епископ Юрий Кособуцкий и православный протоиерей Сергий Лепин:

«Не пойму, зачем это глумление над портретами убиенного, над цветами в его память, зачем это сатанинское попрание лампад и иконок, борьба с импровизированным мемориалом во дворе его дома, вдоль дорог? В чем смысл? Не согласовано, да? А вот такое поведение и отношение — оно согласовано? С кем?» — написал представитель БПЦ Сергий Лепин.

Дальше последовала реакция Лукашенко. Он поручил разобраться со священниками: «Хватит терпеть это издевательство! Мы рот никому не закрываем. Но говорите правду! Сказал неправду — отвечай».

Разбиралась Генпрокуратура. Епископу Минско-Могилевской архиепархии Юрию Кособуцкому и пресс-секретарю БПЦ Сергею Лепину объявлены официальные предупреждения о недопустимости нарушения закона. Генпрокуратура заявила, что высказываниям священников противоречат Конституции и закону «О свободе совести и религиозных организациях».

И последний факт. В 1995 году незадолго до референдума митрополит Филарет более часа выступл по БТ, рассказывая о ценности бчб- и иных христианских символов. При этом он был одет в праздничную одежду с бело-красно-белыми лентами.

Затем на парламентской комиссии при решении вопроса о символике Нил Гилевич спросил Филарета: «Как вы, владыка, относитесь к бел-чырвона-белым символам как символу нашего государственного флага?» Филарет ответил: «Как же я могу относиться к символу крови Христа, пролитой на белую плащеницу?! Только положительно!».

И, наконец, в те же времена в перерыве заседания Верховного Совета 12-го созыва к Филарету подошел Лукашенко и то ли в шутку, то ли всерьез предложил: «Да срежьте вы эти националистические ленточки!»

Так что православным священникам, на мой взгляд, надо серьезно готовиться к выбору своего облачения в предстоящие вскоре праздничные дни Рождества Христова: или постоять за христианские ценности, даже ценой собственной жизни, демонстрируя на своих одеждах бело-красно-белые ленты-символы, или на время царствия антихристов изменить традиции и пока не дразнить слуг дъявола.

Ибо они провели демонстративные тренировки, показав белорусам и всему миру, что овладели навыками «вбивать в голову» до потери сознания и жизни.

**Владимир Подгол**
**naviny.by**

**Заснавальнік і рэдактар:** Станкевіч Георгій Мікалаевіч

**Адрас рэдакцыі:** Бешанковіцкі раён, в. Старыя Ранчыцы, e-mail: stan62@list.ru, тэл. 60237, маб. +375292184739
Газета выдаецца з сакавіка 2005г.

**Падпісана да друку 28.11.2020 у 17.20**
Наклад: 290 асобнікаў.
Выдаецца адзін-два разы на месяц на беларускай і расійскай мовах.

Рэдакцыя можа друкаваць артыкулы дзеля палемікі, не падзяляючы пазіцыі аўтараў.
Друкуецца на ўласным абсталяванні.
Распаўсюджваецца бясплатна дабраахвотнікамі.